Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 20. Вільня, Серада, 25-га сакавіка 1925 г. Год І.

## У 400-я угодкі беларускага друку у Вільні.

Сёньня, 25 сакавіка, беларускае грамадзянства сьвяткуе вялікі культурны юбілей.

400 гадоў назад найвыдатнейшы беларускі дзеяч старога Рэнэсансу, доктар Францішк Скарына з слаўнага места Полацку, выпусьціў у сьвет з сваей друкарні ў Вільні *першую кнігу, друкаваную на Беларускай Зямлі — пабеларуску*.

Ня будзем тут гаварыць аб значэньні друкарства наагул: гэта-ж кожнаму і так ясна. Кніга друкаваная, кніга, *размножаная ў неабмяжованым ліку* і затым *танная і для кожнага даступная* — гэта-ж магутная сіла, якая здольна разьнесьці ў народныя масы сьвятло навукі, знаньня, здольна разбудзіць і прасьвятліць мысьль народу.

І кніга Скарына, незалежна нават ад свайго зьместу, выпаўніла гэтую ролю ў поўнай меры. Яна далучыла Беларускі народ да таго вялікага руху мысьлі чалавечай, які ў XV і XVI сталецьці магутнай хваляй разьліўся па ўсей Заходняй Эўропе. Вялікія ідэі заходня-эўрапэйскіх гуманістаў, разьбіваньне панурага панаваньня царквы з часоў сярэднявечча— усё гэта звонкім эхам адбілася ў Беларусі, і ў выніку гэтага на нашай зямлі *распачынаецца слаўны пэрыяд нашага старога Адраджэньня—Рэнэсансу*.

Скарыне слушна належыцца часьць ад патомных пакаленьняў, якія цяпер — пасьля сталетняга цяжкога сну ў чужацкай няволі — збудзіліся дзеля новага жыцьця і распачалі сваей працай новы Рэнэсанс — новае ўсенароднае Адраджэньне. Скарына — гэта *ўасобленьне няўміраючага генія жывога народу*. І мы, аддаючы належную Скарыне чэсьць, выпаўняем гэтым акт *народнае самапашаны*, перакідаючы адначасна праз прорву вякоў *залаты мост ад нашага старога да новага, сучаснага Адраджэньня*.



**Доктар Францішк Скарына.**
(Паводле старай гравюры).

І не здарма нашае грамадзянства ў Заходняй Беларусі выбрала дзеля сьвяткаваньня Скарынінскага юбілею дзень 25 сакавіка: у гэты дзень прыпадаюць сёмыя ўгодкі другога гістарычнага здарэньня ў жыцьці нашага народу—акту абвяшчэньня ў Менску *незалежнасьці Беларусі*.

Ня будзем ацэньваць гэтага акту з пункту гледжаньня таго ці іншага палітычнага ці сацыяльнага сьветапагляду. Абвяшчэньне незалежнасьці краю, які ў той мамэнт таптаў бот нямецкага акупанта, зьяўляецца бясспрэчна самым яркім выяўленьнем прабуджэньня нацыянальнае сьвядомасьці Беларускага народу, зьяўляецца вялікім „дерзаніем“ — адважнай спробай стацца поўным, неабмяжованым чужой воляй гаспадарам свае зямлі. Сьвядомасьць беларускіх масаў хутка выявілася і на дзеле: збуджаныя грымотамі Рэвалюцыі беларускі селянін і работнік жывой творчай працай — пры будаваньні сваей дзяржавы ў пастаці Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі—найлепш пацьвярдзілі, што гэтае „дерзаніе“ было і ёсьць *усенародным*, што беларускія масы дарасьлі да таго, каб *сваімі ўласнымі рукамі каваць сваю долю і волю і шчасьце*.

Вітаючы сёньня Беларускі Народ з вялікім сьвятам, мы жадаем усім беларусам пранікнуцца глыбокай і нязломнай верай у сьветлую будучыну, бо той *Геній Нацыі*, які дае гэткія яркія свае выяўленьні, запраўды *несьмяротны і жыць будзе вечна*.

## Латвійская „юстыцыя“.

Нешта дзікое, непадобнае да веры творыцца ў „дэмакратычнай“ рэспубліцы Латвіі.

Яшчэ так нядаўна беларуская прэса за прыклад другім дзяржавам стаўляла палітыку Латвіі ў адносінах да яе нацыянальных меншасьцяў. Але вось узьняўся там нейкі новы вецер, нейкія цёмныя, людаедзкія элемэнты дарваліся да ўлады, і пачалося нешта бяспрыкладнае, што толькі слабыя ўзоры мае ў фашыстаўскай Італіі.

Пачаўся паход улады проці нацыянальных меншасьцяў. Але гэтае зьявішча — ня выключна латвійскае: яго бачым і ў Польшчы, і ў Літве, і яшчэ шмат дзе... Затое спэцыяльна латвійскімі зьяўляюцца **мэтады барацьбы.**

Распачалі, ведама, з найслабейшых: беларусаў. І ўдар зроблены быў па нячысьленай групе інтэлігенцыі, культурных працаўнікоў, якія з благаслаўленьня ранейшых урадаў Латвіі закладалі ў беларускіх паветах беларускія пачатковыя школы, вучыцельскія курсы, гімназіі. Вось, усіх гэтых працаўнікоў на ніве беларускае культуры абвінавацілі ў утварэньні „прастуннае арганізацыі“, якая быццам-то сваей мэтай паставіла „адарваньне беларускіх паветаў ад Латвіі“.

Калі-б нават гэта была праўда, дык і так трудна тут дагледзіць „праступленьне“: яшчэ ў 1919 годзе— ў часе Вэрсальскае канфэрэнцыі — паміж беларускай (Луцкевіч) і латвійскай (Цэленс, Бэргс) дэлегацыямі адбываліся **афіцыяльныя перагаворы аб гэтым,** і абедзьвюма старонамі былі прыняты **прынцыпы вырашэньня гэтага пытаньня ў духу разьмежаваньня паводле нацыянальнасьці большасьці насяленьня з эканамічнымі папраўкамі на падставе ўзаемнасьці.**

Але нават самога факту істнаваньня такое „праступнае“ арганізацыі—**няма.** Падставай дзеля абвінавачаньня чыстых культурнікаў у палітычнай рабоце, як відаць з атрыманага намі абвініцельнага акту, зьяўляецца тое, што ўсе гэтыя асобы — па прафэсіі вучыцялі—вучылі ў школах геаграфіі Беларусі (не **дзяржавы** беларускай, а **нацыянальнае тэрыторыі!**), карыстаючыся **адзіным істнуючым** учэбнікам геаграфіі А. Смоліча і выдадзенымі ў 1919 годзе — таксама **адзінымі істнуючымі** — картамі Беларусі, у якіх гаворыцца і паказана, што ў склад Латвіі — з прычыны падзелу Беларусі яе суседзямі—увайшла частка беларускае зямлі. Учэбнік і карты пры папярэдніх латвійскіх урадах былі дапушчаны да ўжытку школьнаю ўладаю, і рассылаў іх у школы начальнік беларускага аддзелу ў міністэрстве асьветы, грам. Сахаров („истинно-русскій“), які, аднак, судом звольнены ад адказнасьці за гэта. А вось усе, хто карыстаўся прысланымі тым-жа грам. Сахаровым кніжкамі і картамі, — усе яны аб'яўлены „праступнікамі“, і абвінавачываючы прысуд „дэмакратычнай“ латвійскай юстыцыі, як нас паведамляюць, **забясьпечаны наперад!**

Падробна праглядаючы акт абвіненьня, немагчыма знайсьці нават сьледу якой колечы **палітычнай арганізацыі** ў гэтай справе. Наадварот, сьледзтвам установлена, што, калі так-званы „ўрад Б. Н. Р.“ прыслаў у Дзьвінск на імя аднаго з абінавачаных пісьмо, заклікаючы да палітычнае працы, дык усе гэныя „праступнікі“, сабраўшыся, напісалі аўтарам пісьма адказ, што яны займаюцца выключна культурнай працай і ў палітыку просяць іх ня ўцягіваць....

Ня гледзячы на ўсё гэта, гэных людзей паарыштоўвалі, адных выпусьцілі пад залог, павыкідаўшы адначасна са службы, а другіх дзержаць год ужо ў вастрозе, ды вось у красавіку „справядлівы“ суд мае з імі, як сьлед, „расправіцца“, каб адным махам пазбавіць беларускае насяленьне Латвіі адзіных яго павадыроў.

Мы прыпамінаем старыя царскія часы ў Расеі, часы самае дзікае рэакцыі,—але і тады ўлада ня толькі ня лічыла „праступленьнем“ учэбнікі геаграфіі Польшчы, або карты яе, але сама выкладала ў школах гісторыю падзелаў Польшчы, вялізарная часьць якое адыйшла пад уладу Расеі. І ніводзін расейскі жандар ці ахраньнік, ня кажучы аб будзь-што-будзь **культурных** пракурорах, ніколі-б і не падумаў перасьледаваць каго-колечы за тое, што той гаварыў аб прыналежнасьці часьці Польшчы да Расеі!

Дый учэбнікі геаграфіі Беларусі, у якіх латвійская „юстыцыя“ дагледзіла „крымінал“, надрукаваны ў Вільні—пад уладай Польшчы. І хоць польскае міні-

# Ня спыняйце падачы дэклярацыяу аб беларускай навуцы у школах!

19 сакавіка дэлегацыя беларускіх і украінскіх дэпутатаў была ў прэм'ера Грабскага і віцэ-прэм'ера Тугутта, якім падала **сьпіс надужыцьцяў гмінных войтаў і наагул адміністрацыі** пры сцьвярджаньні подпісаў на дэклярацыях аб беларускай школе і пры падачы гэтых дэклярацыяў. Адначасна дэлегацыя прасіла **прадоўжыць тэрмін падачы дэклярацыяў**—з 31 сакавіка **да 31 мая**, значыць, на два месяцы, як гэта ёсьць для дэклярацыяў аб польскіх школах.

Дэлегацыі дадзена завярэньне, што **гэтае дамаганьне будзе разгледжана прыхільна.** Назаўтра-ж мін. Тугутт заявіў дэп. Ярэмічу, што **тэрмін падачы дэклярацыяў праўдападобна будзе прадоўжаны не на два, а на адзін месяц (да 30 красавіка).**

Падаючы гэта да ведама беларускага грамадзянства, папераджаем усіх, каб **ня кідалі пр цы ў кірунку арганізацыі падачы дэклярацыяў і пасьля 31 марца**. Асабліва трэба **ўзнавіць працу** там, дзе з прычыны надужыцьцяў агентаў дзяржаўнае і гміннае ўлады **дэклярацыі ня былі пасьведчаны і дзеля таго не маглі быць у свой час пададзены школьным інспэктаром.**

## Ізноу—на мёртвым пункце.

Як было заўсёды праз усе гэтыя пяць гадоў, так і цяпер у справе забясьпечаньня міру шляхам агульнае ці—**групавое** ўмовы „сардэчна запрыязьненыя саюзьнікі"—Англія і Францыя—апынуліся ў варожа розных лагерах. Пры гэтым з поўнай ачывіднасьцяй выявілася непрымірымая супярэчнасьць ці процілежнасьць інтарэсаў і становішчаў абодвух краёў і — на гэтым стоп...

Але час працуе ўсё выразьней і выразьней на карысьць палітычнай сыстэмы Англіі — сыстэмы вольных, але **зраўнаважаных** групавых саюзаў ці „паразуменьняў" між дзяржавамі ў Эўропе...

У справе нямецкай прапазіцыі аб пераглядзе заходніх граніцаў Польшчы, пасьля рашучага бою абодва праціўнікі „захавалі ўсе свае пазіцыі" і пачаўся пэрыяд „ветлівых камплімэнтаў". Чэмбэрлен толькі што заявіў у Парыжу журналістам, што англійскі ўрад зусім ня меў на мэце націскаць на Польшчу, каб яна ўжо пачала перагаворы з Нямеччынай аб пераглядзе граніцаў. Польшча можа зусім не клапаціцца ні аб чым, маючы гэткага вернага і шчырага прыяцеля, як Францыя. Польшча — вялікая дзяржава, дык..., калі б пачаліся перагаворы, Польшча напэўна была б запрошана прыняць у іх учасьце".

Як бачым, камплімэнты не выключаюць пагрозы нейкіх „перагавораў" — усё ў тэй жа справе нямецкіх прапазіцыяў... З свайго боку Эрыо, пасьля цэлага раду красамоўных камплімэнтаў англійскаму ўраду і заяваў аб вернасьці Польшчы, дагэтуль яшчэ, як сьцьвярджае блізкая да яго газэта, ня вырашыў, як лепей і выгадней для Францыі разьвязаць задачу: ці паразуменьнем з Англіяй—шляхам уступак, якія занепакояць і пакрыўдзяць прыяцеляў Францыі і падтрымаюць „ворагаў", ці прыдзецца пачаць штось паважнае бяз учасьця Англіі. З гэтых заяваў з абодвух бакоў відаць зусім ясна, чым яшчэ можа ў кожнай хвіліне пагражаць эўрапэйскаму міру ўся кампанія больш ці менш шчырых рыцараў—абаронцаў яго, а перад усім з лагеру прыхільнікаў „пратаколу аб вечным міры".

---

стэрства асьветы не дапусьціла гэтае кніжкі да школьнага ўжытку, аднак, польская пракуратура і не падумала караць каго-колечы за аб'ектыўную падачу бясспрэчных і агульна-ведамых фактаў! А беларусаў, як ведама, польская ўлада наагул па галоўцы ня гладзе...

Мімаволі раўнуеш гэты „зроблены" па заказу з Рыгі працэс проці беларускіх культурных дзеячоў з рэпрэсіямі проці латвійскіх палякоў. Палякі ў Латвіі, як сьцьвярдзіла ўся польская прэса ў Польшчы, **запраўды** працавалі і працуюць над тым, каб адарваць ад Латвіі шэсьць каталіцкіх гмінаў над Дзьвіной, якія лічаць польскімі (хаця там жывуць беларусы „польскае" веры). На чале гэтае кампаніі стаіць дэпутат латвійскага сойму, грам. Вержбіцкі. У самым сойме яму рабілі закід у гэтым прадстаўнікі латвійскага ўраду і латышскіх партыяў. Але там ніякага працэсу няма і ня будзе, бо.., за грамадзянамі Вержбіцкімі стаіць суседняя Польская дзяржава, якая адным ударам магла-бы сьцерці з абліча зямлі ўсю Латвійскую рэспубліку, ды ад якое латышы атрымліваюць як раз тое, што ім патрэбна дзеля абароны ад другога магутнага суседа... Перасьледуючы-ж беларусаў, латвійскі ўрад перакананы, што **ніхто і пальцам ня кране дзеля іх абароны**: Польшча — бо гэта **беларусы** (хаця блізу ўсе абвінавачаныя — **грамадзяне Польшчы!**), СССР—бо яны **не камуністы...**

Мы крэпка захаваем гэны латвійскі акт абвіненьня ў нашых нацыянальных архівах, як доказ самага бязглуздага, самага цынічнага зьдзеку „дэмакратычнае" Латвіі над беларусамі,—ad perpetuam rei memoriam.

**Ів. Мялешка.**

## П. Тугутт уваскрос!

(*Камітэт для крэсавых спраў*).

Пасьля скандалаў на зьезьдзе „Wyzwolenia", якія закончыліся адстаўкай (?) усіх уладаў клюбу і партыі, скандалаў, скампрамітаваўшых, калі яшчэ не разваліўшых партыю; пасьля гэтага зьезду, паказаўшага перад усім у партыі вельмі малую групу „тугуттаўцаў",—п. Тугутт лягчэй пайшоў на кампраміс з урадам п. Грабскага.

19/III быў апублікаваны паўафіцыяльны камунікат, у якім сказана, што ў сувязі з праектам утварэньня пры Радзе Міністраў асобнага Камітэту для спраў усходніх ваяводзтваў — наступіла прынцыповае і поўнае ўзгадненьне паглядаў прэм. Грабскага і мін. Тугутта.

П. Тугутт атрымаў пад свае старшынства — на правах прэм'ера — асобны Камітэт да справаў „Крэсаў", статут якога будзе ў бліжэйшых днях апрацаваны—і прыняты шляхам распараджэньня Рады Міністраў (ня пройдзе праз Сойм).

Паўнамоцтвы гэтага Камітэту, як даведаліся газэты, маюць быць вельмі шырокія. Камітэт мае складацца — па ўзору Палітычнага Камітэту Рады Міністраў — з гэткіх міністраў: унутраных спраў, ваеннага, асьветы і зямельных рэформ.

У камітэце маюць разглядацца і яднацца ўсе меры і распараджэньні ўладаў адносна да „**Крэсаў**". Камітэт будзе мець права... прапанаваць назначэньне ці звальненьне ўрадоўцаў на абшары ўсходніх ваяводзтваў, права нагляду (інспэкцыі) над усімі ўрадамі на „Крэсах", права „даваць апінію" аб усялякіх распараджэньнях, цыркулярах і т. п. уладаў на „Крэсах", права атрымліваць копіі ўсіх рапартаў і адчотаў ваяводаў і іншых уладаў на „Крэсах", адрэсаваных цэнтральнаму ўраду.

Пасьля кароткай дыскусіі ў склад Камітэту быў уведзены яшчэ і Міністар загранічных спраў, але гэта зусім ня мае значыць — „няпэўнасьці дзяржавы, што да ўсходніх граніцаў", але мае мэтай толькі разгляд усіх „крэсавых" спраў „з высокага пазёму агульна-дзяржаўнай палітыкі".

Дык вось пэўная „аўтаномія" Крэсаў, прынамсі ў лоне Рады Міністраў, — мае стацца фактам. На чале гэтага „аўтаномнага" Крэсавага Камітэту, як яго старшыня, і мае стаяць п. Тугутт—з правамі і паўнамоцтвамі прэм'ера.

Насколькі рэальнай уладай на „Крэсах" будзе гэты від супрацоўніцтва п. Тугутта з урадам, аб гэтым мы даведаемся ад самага п. Тугутта.... за наступныя 4 месяцы!—Але ўжо наперад можна сказаць, што ад гэтага „ўдваеньня" тых-жа 5 міністраў таго-ж ураду пад новым назовам „Крэсавага Камітэту" — з яго лішнімі „адпісамі" і павялічанай перапіскай ніякіх рэальных зьменаў для „Крэсаў" ня будзе. Усё гэта—толькі аздобы для асабістай біаграфіі п. Тугутта,—усё гэта—зусім нязшкодныя для правіцы ахвяры на аўтар асабістай амбіцыі п. віцэ-прэм'ера...

Што ўсе гэтыя „паўнамоцтвы" толькі гальванізаваньне палітычнага нябожчыка, „вывеска", якая пакуль-што патрэбна для заграніцы (?),— у гэтым ня можа быць ніякага сумліву,..

# ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЬЦЁ

### Зьезд „Wyzwolenia".

На агульным зьезьдзе „Wyzwolenia" дайшло да раду скандалаў, у выніку якіх урад клюбу і партыі амаль ня ў цэлым складзе выйшаў у адстаўку.

Перад усім, як было заўсёды, палаяліся паны прэзэсы злучаных клюбаў Wyzwolenia і Еднасьці Людовай, п. п. Рудзіньскі і Домбскі. Пан Рудзіньскі заявіў у сваей прамове, што партыя „Wyzwolenia" была чыстай, як сьляза, пакуль не зьвязалася з „домбшчакамі". Гэта выклікала агульнае абурэньне „домбшчакоў" і скандал.

Уканцы п. Рудзіньскі „перапрасіў" п. Домбскага, пішучы, што... з прычыны шуму ён не здалеў дасказаць да канца сваю думку.

Пасьля гэткай „крытыкі" з боку галавы партыі па адрасу злучанай з ёй соймавыя групы, спадзяюцца ізноў „разводу" абодвух клюбаў. Але яшчэ больш скандальны быў канфлікт між тымжа прэзэсам клюбу „Wyzwol. п Рудзіньскім і клюбам „Związku Chłopskiego", з якім клюб „Wyzwolenia" маніўся злучыцца. П. Рудзіньскі аб гэтым саюзьніку і будучым сябру „аб'яднаньня польскага сялянства ў Сойме" выразіўся вельмі рэзка, карысьці ад павялічэньня клюбу ад гэтага злучэньня з „хлопамі" ня будзе, бо з клюбу „Wyzwolenie" выйшлі-бы „інтэлігенты". Што-ж датычыць карысьці паводле якасьці новых сяброў, дык і гэтыя карысьць—„у найвышэйшай меры сумліўная". Дзеля таго п. Рудзіньскі запрапанаваў толькі выбраць з „Związku Chłopskiego" некалькі паслоў, а рэшту пакінуць.

Гэткая „суседзкая" крытыка выклікала вялікае абурэньне ў клюбе „Chłopów", урад якога заявіў, што ня толькі ня хоча аб'яднаньня з „Wyzwoleniem", але—зрывае ўсялякія адносіны з сучасным прэзыдыумам „Wyzwolenia".

Той-жа прэзэс клюбу „Wyzwolenia", п. Рудзіньскі, адазваўся ў сваей прамове на зьезьдзе аб „найрадыкальнейшым" з сяброў партыі, дэпутаце доктары Фідэркевічу, назваўшы яго „komunizującym". Гэты дэпутат зрабіў у гутарцы з супрацоўнікам „Kur. Polk." свой дыагноз аб хворай „вызваленскай" партыі, што „хворы арганізм трэба... парэзаць на кавалкі".

„Лепш было-б для сялянскага руху, каб у Сойме стварыліся з (Wyzwolenia) чатыры новыя групы"—казаў ён.

А на пытаньне, што давяло партыю да сучаснага пагражаючага стану, коратка адказаў, што гэта разваліць партыю здалеў, як ніхто лепш, сам прэзэс яе клюбу п. Рудзіньскі, які ўсіх „zraził" да сябе...

Запраўды-ж, трэба згадзіцца з п. Фідэркевічам, што ня толькі прэзэс клюбу, які лае публічна сваіх сяброў, і сваіх найбліжэйшых палітычных прыяцеляў, ды робіць публічна даносы на іх, закідаючы ім „камунізм"—за прапазіцыю амністыі для палітычных вязьняў,—але і ўся тая сацыяльна-палітычная „мікстура" (мешаніна), якая завецца „Вызваленьнем", як безнадзейна хворы арганізм, павінна разьбіцца на кавалкі

Пасьля ўсяго гэтага „радыкальныя" рэзалюцыі разваліваючаеся партыі ня маюць ніякае рэальнае вартасьці. Падаем іх аднак-жа дзеля інфармацыі:

1) Зьезд дамагаецца безадкладнага роспуску Сойму і новых выбараў паводле старага выбарнага закону.

2) Зьезд ліча пажаданым утварэньне ў Сойме блёку радыкальных работніцкіх і сялянскіх партыяў і падрыхтаваньне адналітага фронту (!) лявіцы проці рэакцыі—на час выбарнай кампаніі.

3) Зьезд дамагаецца скасаваньня Сэнату.

4) У справе аслаўленай „Санацыі Крэсаў" зьезд трэбуе ад ураду найвялікшай для Польскай дзяржавы справы: трэба даць запраўдную гаспадарчую запамогу мясцоваму насяленьню, трэба чым хутчэй правясьці зямельную рэформу, папрявіць адміністрацыю, даць волю разьвіцьцю беларускай. украінскай і літоўскай школы, увясьці ў жыцьцё запраўдны самаўрад — на падставе прызнаньня паўнаты правоў беларускага і ўкраінскага народаў на сваё ўласнае нацыянальнае і культурнае разьвіцьцё.

5) У справе адносінаў да ўраду зьезд зусім адобрыў пастанову Соймавага Клюбу партыі, якая завастрае апазіцыйную акцыю проці ўраду — за яго рэакцыйнасьць, не вагаючыся нават перад звальненьнем сучаснага ўраду.

### Барацьба з клерыкалізмам[1]) у Францыі.

Далучэньне Эльзаса і Лётарынгіі і... ўваскрашэньне Польшчы, „заўсёды найвярнейшай дачкі" Каталіцкай Царквы, ратуючы Францыю пакульшто з вонкава—палітычнага боку, пачалі пагражаць раптам унутранаму міру краю...

Былыя нямецкія правінцыі ня ведалі суровых антыклерыкальных Законаў Комба (Нямецкі урад не баяўся, дык і не перасьледаваў каталіцкай царквы...), а цяпер ураду п. Эрыо прыйшлося, як калісь пры выданьні гэтых законаў у Францыі, ламаць сілаю моцны апор каталіцкіх біскупаў і царкоўных арганізацыяў у новадалучаных правінцыях, што выклікала па ўсей Францыі салідарны пратэст значна ўзмацаваўшагася — у часе вайны і панаваньня „нацыянальнага блёку"—францускага клерыкалізму. Але гэты апор францускага кліру, як і наагул уплывы і апэтыты Ватыкану ў Францыі, ніколі не маглі-б так узмацавацца і з такой адвагай аб'явіць вайну сьвецкай дзяржаўнай уладзе, калі-б ня тая новая падпора і падмога, якую Ватыкан атрымаў у паўстаўшай з мёртвых Польшчы, у якой каталіцкі клір іграе ад пачатку наймагутнейшую палітычную роль...

У сучасны мамэнт у Францыі йдзе ўжо запраўдная вайна між царквой і дзяржавай... Эрыо скасаваў пасольства пры Ватыкане. А ў адказ на гэта апошнія дні францускія кардыналы і біскупы выпусьцілі адозву, сьціраваную ня толькі проці ўраду Эрыо, але б'ючую шмат далей — проці самага прынцыпу сьвецкага ладу ў дзяржаве наагул, а перад усім проці сьвецкай школы. Адозва францускіх кардыналаў кляйміць наагул самае „сучаснае атэістычнае[2]) гаспадарства" разам з яго законамі.

„Гэта-ж не законы, але гэта толькі гвалт і ўціск, кажуць князі царквы, заклікаючы верных да непакорнасьці і актыўнага апору гэтым бязбожным „законам" сучаснага бязбожнага гаспадарства...

Нават памяркоўны „Le Temps" ня вытрымаў і пратэстуе проці гэтага касаваньня „самых падставаў сучаснай дзяржавы". Больш радыкальныя газэты пішуць, што адозва францускіх „сьмірэнных" ня толькі абвяшчае барацьбу асноўным законам Францыі—і наагул падставам дэмакратыі, але зьяўляецца „заклікам да бунту проці закона і—да хатняй вайны"...

Адозва выклікала вялікае парушэньне ў-ва ўсім краю. А беспасярэднім яе рэзультатам (—бо

[1]) Клерыкалізм — імкненьне царквы йграць палітычную роль у дзяржаве.

[2]) бязбожнае.

жыць глыбей у народна-дзяржаўным жыцьці. Гэта — ці Нямеччына павінна вясьці далей палітыку пасыўна-эвалюцыйную ў рамках трактатаў, прадыктаваных пераможнымі, ці—наадварот—павінна, бо ўжо мае сілу і адвагу актыўна змагацца з трактатамі, з нядоляй, з апекай...

Як ведама, сацыялістычныя ўрады з прэзыдэнтам сацыялістам зрабілі сабе сьпярша кар'еру, а пасьля... выкапалі магілу — палітыкай пасыўнага праціўленьня. Гэтая палітыка мела ўсе падставы ў свой час. Але цяпер можна сьцвердзіць, што гэтая палітыка і яе павадыры пакулц-што адыйшлі ў бок...

Дык можна сьмела прадбачыць перамогу—не сацыялістаў.

Што датычыць лёзунгу „рэспубліка ці манархія“, дык нават манархісты тактычна не выстаўляюць на від сваей „ня блізкай яшчэ“ мэты,—каб не дражніць, як унутраных, таксама і пераважных заграгічных (францускіх) гусей.

Дык можна прадбачыць, што перамога будзе на старане буржуазнай, права - цэнтравай кандыдатуры, якая пры большай актыўнасьці высунуўшых яе палітычных групаў будзе выклікаць найменш асабістых закідаў і небяспек, з пункту гледжаньня, як унутраных, таксама і заграгічных адносінаў.

Кандыдатура Людэндорфа, камуністаў, а таксам і сацыялістаў адпадаюць бязумоўна; кандыдатура Маркса—моцная, бо цэнтравая, але мае ўжо скандальную мінуўшчыну: правалы ў Прусіі. Дык астаюцца толькі кандыдаты Яррэс, Гельнах і Гэльдт.

Але адошні—баварэц, а другі бадэнец—для Бэрліну гэта—недапусьціма. Дык вось, здаецца, ад умовы паміж блёкам нацыяналістаў з людоўцамі цэнтру і дэмакратамі і будзе залежаць выбар асобы прэзыдэнта.

Блёк мае без параўнаваньня мацнейшыя лічбы і ўплывы, але ад дэмакратаў залежыць даць абсалютную большасьць, як цэнтра-праву, таксама і цэнтралеву.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Нямецкая прапазіцыя Польшчы.

„Тімэс“ паведамляе, што нямецкі ўрад зьвярнуўся да польскага з прапазіцыяй перагавораў у справе перагляду заходніх граніц Польшчы.

Польскі ўрад адказаў, што рашуча адкідае гэную прапазіцыю.

### П. Бэнэш у Варшаве.

У Варшаву зьбіраецца чэхаслдвацкі міністар, доктар Бэнэш—у справах таргавага дагавору, а можа і палітычных...

### Працэс пасла Ланьцуцкага.

У Перамышлю пачаўся пры зачыненых дзьвярох працэс дэпутата-камуніста Ланьцуцкага. Абвінавачаны атрымаў з розных краёў ад камуністаў шмат прывітаньняў. Па месьце ходзяць патрулі.

## Заграніцай.

### Замах на папскага нунцыя ў Літве.

У габінэт прадстаўніка рымскага папы ў Коўне нехта кінуў праз вакно вялікі камень, які ўпаў каля сядзеўшага пры стале нунцыя Цэхіні. У сувязі з усей кампаніяй проці Ватыкану нунцый Цэхіні выяжджае з Літвы ў Рым.

### Нямецкія пляны.

Парыжскія газэты пішуць, быццам Штрэзэман запрапанаваў Францыі і Англіі аж 3 розных пляны перагляду нямецкіх граніц. Першы плян—за гарантыю франка-нямецкай граніцы Нямеччынай; апошняй варочаецца назад Гданск з калідорам (і Сьлёнск?). Калі гэты плян будзе адкінуты, тады немцы высоўваюць другі плян: за гарантаваньне франка-нямецкай і польска-нямецкай граніцы Нямеччына атрымлівае згоду саюзьнікаў на злучэньне з Аўстрыяй. Нарэшце, трэці плян — у тым, каб за гэтую-ж гарантыю з боку Нямеччыны саюзьніцы вярнулі ей усе яе калёніі.

### Амэрыка аб эвакуацыі Кельну.

Амэрыканскі ўрад моцна націскае на саюзьнікаў у справе выкананьня артыкулу Трактату аб ачышчэньні кельнскага абшару. Наагул Амэрыка, улажыўшы значныя капіталы ў Нямеччыну (пазыка ў зьвязку з „плянам Доўса“ і іншыя), гэтым самым моцна заінтэрэсавана ў эканамічным, а, значыць, і палітычным разьвіцьці краю.

### „Злучаныя Штаты Эўропы“.

Чэхаславацкі міністар заграгічных спраў п. Бэнэш апрацаваў праект Злучаных Штатаў Эўропы, які мае разаслаць усім урадам, прадстаўленым у Лізе Народаў, на разгляд.

### Ізноў урадовы крызіс у Прусіі.

Двойчы выбраны прускім прэм'ерам Маркс ізноў падаўся ў адстаўку—з прычыны немагчымасьці ўтварыць габінэт.

### Новы прэм'ер Фінляндыі.

З прычыны адстаўкі фінляндзкага габінэту, прэзыдэнт Фінляндыі даручыў утвар эньне ўраду прафэсару ўнівэрсытэту Туленгэйму, выдатнаму палітычнаму дзеячу, быламу міністру і кандыдату на прэзыдэнта рэспублікі.

### Сьмерць Аверчэнкі.

У Празе памер ведамы ўсяму сьвету і агульна любімы расейскі пісьменьнік—гумарыст Аркадзь Аверчэнка.

# ХРОНІКА.

**Да сягоньняшніх угодкаў.** Сягоньня— з прычыны прыпадаючых угодкаў—Беларускі Нацыянальны Камітэт зьбіраецца на ўрачыстае паседжаньне ў 12 гадз. дня.

Паседжаньне закрытае, выключна для сяброў Камітэту.

Увечары, у 8 гадз.,—урачыстая акадэмія, пасьвячоная Скарыне. Акадэмія адбудзецца ў салі Віленскае Беларускае Гімназіі (Вострабрамская 9).

У 10 гадз. раніцы ў касьцелі сьв. Мікалая адбудзецца ўрачыстае набажэнства.

У Маладэчыне 25 сакавіка (марца) г. г. гуртком моладзі белар. гімназіі ладзіцца спэктакль будзе згуляно „Страхі жыцьця“, „Збянтэжаны Саўка“ і „Пасланец“.

Адкрываецца ў Маладэчне Белар. кнігарня, Пілсудская вул. № 61.

**Канфіскацыя „Студэнцкае Думкі“.** Камісар Ураду на м. Вільню сканфіскаваў № 3 студэнцкае часопісі „Студэнцкая Думка“.

**Югаслаўскія госьці.** У Вільню прыяжджаў югаслаўскі акадэміцкі хор, які даваў тутака свае канцэрты. У дзень канцэрту быў назначаны і беларускі студэнцкі вечар; аднак, п. камісар ураду, вядомы сваей „прыхільнасьцяй“ да беларусаў,—відаць, не хацеў, каб гэты беларускі вечар нарушыў „чыста польскі характар“ Вільні і Віленшчыны, і зусім беспадстаўна забараніў уладзіць яго—у апошні дзень...

Аднак, гэтая „высокая палітыка“ зусім збанкрутавала. Студэнты—беларусы здалелі пазнаёміцца з сэрбскімі калегамі — учасьнікамі хору і паінфармавалі іх аб палажэньні беларусаў у Польшчы, ды аб рэпрэсіі п. Камісара проці беларускага студэнцкага саюзу. Мала таго, група югаслаўскіх гасьцей захацела бліжэй пазнаёміцца з беларусамі і, адлучыўшыся ад рэшты і гэтак звольніўшыся ад гасьціннай „апекі“ польскіх гаспадароў места, заглянула ў Беларускі Музэй, выражаючы свой жаль, што такія цэнныя зборы памятак старае беларускае культуры знаходзяцца ў такім цесным памяшчэньні, з каторага да таго-ж „гаспадары места“ зьбіраюцца выкінуць іх на вуліцу...

Беларускія і сэрбскія студэнты знайшлі супольны язык, і югаслаўскія госьці, ня гледзячы на ўсе перашкоды, даведаліся аб беларусах і іх цяжкім жыцьці.

**У Беларускім Музэі.** Сьледам за сэрбскімі студэнтамі, у панядзелак, 23 сакавіка, музэй ім. Івана Луцкевіча аглядала экскурсія студэнтаўжыдоў з Варшавы.

**Падручнікі рэлігіі ў беларускай мове.** Варшаўскі Праваслаўны Сынод пастанавіў выдаць падручнікі—для выкладаньня рэлігіі, і малітвенікі для школаў у беларускай, украінскай, польскай, чэшскай і расейскай мовах.

**„Мэморыял“ п. Павлюкевіча.** За подпісам „старшыні“ так-званае „Тымчасовае Рады“, п. Павлюкевіча (тож „доктара“), а такжа „тоже бѣлоросса“ Кабычкіна—у міністэрства асьветы пададзены „мэморыял“ у справе беларускіх школаў.

„Мэморыял“ гэты—нішто іншае, як **чародны данос** на... Беларускі Пасольскі Клюб. Вось цантральнае мейсца гэтага „мэморыялу“:

„Беларускі Пасольскі Клюб, паміма таго, што у сваім часе байкатаваў языковыя законы, цяпер, стоючы перад фактам стварэньня Часовае Беларускае Рады (—ну, і сьмешнік-жа гэны „доктар“!), ляяльней да Польскае Дзяржавы, стараецца ўсю асьветную работу сканцэнтраваць у сваіх руках (—ну, паночку, няўжо-ж вы ня ведаеце, што гэтым займаецца Беларуская Цэнтральная Школьная Рада?!). Зусім ясна, што Беларускі Пасольскі Клюб, вядучы гэтую работу, яшчэ больш узмацаваў-бы свае ўплывы сярод сялянства, **пашыраючы процідзяржаўныя (antypaństwowe) ідэі**, і з школ зрабіў-бы свае пляцоўкі, а з вучыцялёў — сваіх агентаў. Дзеля гэтага дзяржаўны інтэрас Рэчыпаспалітай вымагае, каб гэтую асьветную работу вяла арганізацыя, палітычныя перакананьні якой згаджаліся-бы з ідэяй польскае дзяржаўнасьці ў Заходняй Беларусі. Такжа зусім ясна, што вучыцялі, зьвязаныя маральна і **матэрыяльна** (інакш: купленыя за грошы) з полёнофільскай арганізацыяй, сілай рэчаў зробяцца яе палітычнымі пляцоўкамі, пашыраючымі ідэі сужыцьця двух братніх народаў—польскага і беларускага“.

З далейшага тэксту „мэморыялу“ відаць, што „полёнофільская“ арганізацыя п. Павлюкевіча мае такіх „пэўных“ вучыцялёў ажно... 60, якімі гатова абдарыць польскую ўладу.

І за ўсе гэтыя ўсугі, як мы даведаліся, п. Павлюкевіч просіць ад польскага ўраду ўсяго толькі... **12 тысяч польскіх злотых**—на пэнсіі „дзеячам“ з гэнае „полёнофільскае“ арганізацыі!

На жаль, п. Грабскі ўпіраецца і гэтым пазбаўляе Польскую Рэчпаспалітую такіх бескарысна адданых ей слуг....

**Справаздача** па збору ахвяр на карысьць незаможных вуч. Віл. Бел. гімназіі: Сабрана 990 зл. 28 гр. Выдаткі 36 зл. 40 гр. **Чысты збор 953 зл. 88 гр.**

Адначасна Ц. Бел. Шк. Рада перасылае падзяку, як усяму грамадзянству, каторае сваімі ахвярамі дапамагло бедным вучням, так і сябром, якія бралі чынны ўдзел па збору.

**Цэнтр. Белар. Школьная Рада.**

# Карэспандэнцыі.

### Як людзі дамагаюцца сваей школы.

(З *Пружаншчыны*).

Сяляне вёскі Блудэнь, Картуз-Бярозкай гміны, даведаўшыся, што можна польскую школу ператварыць у беларускую, яшчэ з восені пачалі клапаціцца і напісалі прыгавар і г. д. Ды гэта ўсё нічога не памагло: гмінны войт не схацеў падпісываць. Даведаўшыся цяпер аб новым парадку адкрываньня беларускіх школ (падачай дэкларацыяў), бацькі 110 дзяцей, сабраўшысь 5 га сакавіка (марца), і паваліді да воласьці з дэкларацыямі. Войт і сэкратар давай крычаць, што ў Блудні ніколі ня можа быць беларускае школы, а хіба кожны бацька ў сваей хаце будзе дзяцей вучыць пабеларуску,—„як калісь, кажа,—палякі пры рускіх, дык цяпер і вам прышлося“. Дык мы ня рускія, а беларусы. А войт гмінны кажа „едзьце да школьнага інспэктара ў Пружану, а мяне гэта не абходзіць“, ды рашуча адмовіўся ад падпісаньня. Тады сяляне падалі яму „Dziennik Ustaw № 3 Rzeczy Pospol, z 14 stycznia“ і паказалі яму „Rozporządzenie Ministra Wyznań Religijnych i Oswiecenia Publicznego z dnia 7 stycznia 1925 г., але войт не схацеў і слухаць. Тады сяляне пайшлі да судзьдзі, але яго ня было дома, а сэкратар сказаў, што „ў нас няма ніякага распараджэньня аб падпісаньні дэкляарацыяў“. І нашы сяляне, засмуціўшыся, пайшлі дамоў.

**Блудэнец.**

**Ад Рэдакцыі:** Не здавайцеся і трэбуйце, каб гміна споўніла свой абавязак і пасьведчыла дэклярацыі. Калі-ж не, дык сьпішыце аб гэтым пратакол з подпісамі сьведкаў ды прышліце ў Школьную Раду ў Вільны, ці ў Беларускі Пасольскі Клюб—у Варшаву.

### Асаблівыя „камуністы“.

(*Мілейчыцы, Бельскага пав.*).

12-га сакавіка а 3 гадз. ўначы мяйсцовая паліцыя з шпіком на чале явілася на рэвізію да млына жыхара вёскі Ятушчыкі, млынара Міхала Тымашэвіча, і пачала стукацца ў дзьверы. Апрача гаспадара і яго сына Пётры ў хаце быў прыезны з суседняй вёскі старык Іван Пыталь, які па просьбе гаспадара пайшоў адчыняць дзьверы. Пакуль палілі сьвягло, паліцыя была ў кухні, і мусіць, у гэты час нехта падкінуў ля шафы, якая стаіць каля дзьвярэй, шэсьць камуністычных праклямацыяў. Ператросшы ўсе пакоі і нічога не знайшоўшы, пайшлі ў кухню і там выцягнулі з пад шафы сьвежа падкінутыя праклямацыі. Пры гэтым паліцыянт Астроўскі перш, чым выцягнуць гэтую „літэратуру“, ужо закрычаў: „ёсьць камуністычныя праклямацыі“. Відаць, ведаў наперад, што ляжыць пад шафай.

Пётру Тымашэвіча арыштавалі, ня гледзячы на тое, што ён быў хворы і ляжаў у ложку. Есьць сьведкі, што сышчык яшчэ незадоўга перад тым пахваляўся „co ja chcę, to i zrobię“.



Рэдактар-Выдавец **Антон Пракапеня.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.